# НАША БУДУЧЫНА

**Цана асобнага нумару 200 м. п.**

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільна, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкаў да хаты 800 м. п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад ня вертаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 400 мк., сярод тэксту 600 мк. і на апошняй страніцы 200 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

**№ 3.** **Панядзелак, 25-га сьнежня 1922 г.** **Год I.**


## Віншуем з Новым Годам!

## На пераломе.

У кожным грамадзянстве і ў кожнай дзяржаве йдзе бязупынная барацьба паміж палітычнымі партыямі.

Партыя — гэта прадстаўніца тэй ці іншай групы грамадзянства, тэй ці іншай клясы — з усімі яе інтарэсамі, пажаданьнямі, ідэаламі. І партыйная барацьба — гэта выяўленьне тэй барацьбы, якая бязупынна, кожын дзень, кожын мамэнт ідзе паміж рознымі групамі і клясамі народу. А мэта яе — здабыцьцё ўлады ў гаспадарстве, каб забясьпечыць сваей клясе панаваньне.

Бадай, ня знойдзеш цяпер другой такой старонкі, дзе-б партыйная барацьба сталася такой вострай, як у сучаснай Польшчы. Найбольш ярка гэта выявілася на выбарах прэзыдэнта Польскай Рэспублікі: пасьля таго, як кандыдат правых, граф Замойскі, праваліўся, і на чале гаспадарства стануў чалавек бязумоўна паступовы, вольны ад дзікага нацыяналізму, — сярод правых (панскіх) партыяў зьявілася думка зьмяніць выбары рэвальвэрнай расправай з першым прэзыдэнтам Польшчы. І знайшоўся чалавек, які гэту думку-лятуценьне польскага панства правёў у жыцьцё, запэцкаўшы свае рукі крывёй прэзыдэнта Нарутовіча,..

Забойства Нарутовіча — доказ таго, што дарогай права і закону польскае панства не спадзяецца здабыць улады над працоўным народам Польшчы. Гэта — знак банкруцтва правых і нацыяналістаў. А паўторныя выбары прэзыдэнтам, кандыдата польскай дэмакратыі, Войцеховскага, толькі пацьвярдзілі гэтае банкроцтва.

Але ня трэба забывацца аб тым, што пабеда польскай дэмакратыі была магчыма толькі дзякуючы таму, што яе падтрымалі такзваныя нацыянальныя меншасьці: беларусы, украінцы, немцы, жыды. Усе гэтыя нацыянальнасьці верылі, што перавага польскай дэмакратыі павінна павясьці польскую дзяржаўную палітыку па новай дарозе — па дарозе запраўднае волі для ўсіх грамадзян і нацыянальнасьцей, якія жывуць пад польскаю ўладаю. Верылі, хоць асоба пана Войцеховскага сама па сабе не дае ніякае пэўнасьці ў гэтым: у яго-ж руках, як міністра ўнутраных спраў, была ўжо ўлада, была магчымасьць выкурыць той дух беззаконьня і уціску „інародцаў“, якім пранікнута польская адміністрацыя — асабліва ў нашым краю, — і ўсё-ж ён з гэнай магчымасьці не скарыстаў, пакідаючы ўсё па старому... Вось, даючы свае галасы за пана Войцеховскага ў Нацыянальным сабраньні, меншасьці выявілі даверые сваё не пану Войцеховскаму асабіста, а выключна польскай дэмакратыі. І апошняя павінна ўзяць на сябе ўвесь адказ за дзейнасьць новага прэзыдэнта.

Польшча стаіць на раздарожжы. За першай пабедай дэмакратыі павінна пайсьці поўная зьмена курсу польскай палітыкі. Ці мы яе ўбачым? Гэта яшчэ пытаньне. Але, калі і дэмакратыя Польшчы будзе йсьці сьледам за эндэкамі ў палітыцы да іншых нацыянальнасьцей, дык вера меншасьцей у польскую дэмакратыю аканчальна развеецца. Вынікі-ж гэтага напэўна ня будуць карысны для маладога Польскага гаспадарства.

✦✦✦✦

## Барацьба за незалежнасьць.

Вялікая сусьветная вайна і соцыяльныя рэвалюцыі па ўсей Эўропе разбудзілі самыя занепаўшыя ў культурным разьвіцьці і палітычным становішчы народы да барацьбы за сваю незалежнасьць, за вызваленьне з пад чужацкай апекі і пашырылі, углубілі гэтую барацьбу там, дзе яна ўжо была. Напрыклад, беларусы, яшчэ ў 1917 годзе ў часопісі „Вольная Беларусь“ дамагаліся толькі аўтаноміі, а ў 1920 годзе ўжо палілася беларуская кроў у барацьбе за незалежнасьць сваей Бацькаўшчыны.

За гэты час і ў тэорыі, і ў практыцы жыцьцёвай выдзеляецца шмат мейсца аб адраджэньні народаў, аб правох прыгнечаных нацыянальнасьцяў. Ад самых левых соцыялістычных кірункаў да самых правых—усе ўразумелі і прызналі жыцьцёвасьць ідэі адраджэнскага руху і стаяць у абароне праў нацыянальных меншасьцей. Ленін пасьвячае гэтаму пытаньню цэлы том (XIX), даючы шырокае талкаваньне нацыянальнаму пытаньню, прызнаючы патрэбнасьць кожнаму народу самому і незалежна тварыць сваю ўласную культуру, а не пазычаць яе ў чужых, ня быць гноем для чужой культуры. Нацыянальнае „я“ павінна адрадзіцца і сказаць сваё слова. Нават сярод польскага грамадзянства ўсё часьцей-гусьцей прыходзіцца чуць трэзвы, здаровы пагляд на нацыянальнае пытаньне. Моцны публіцысты Ст. Буковецкі ў сваей новай кнізе „Polityka niepodległej Polski“ стаіць за тое, каб дапамагчы Беларусі і Украіне стаць незалежнымі і гэтым ліквідаваць адвечныя звадкі паміж Польшчай і Расеяй за гэтыя землі.

Ня кажучы ўжо аб бязупыннай крывавай барацьбе за сваю незалежнасьць Ірляндыі і Галіччыны, Марока супроць Гішпанцаў, а таксама і Індыі, Месапатаміі, Сырыі, Ягіпце, але нават і негры разварушыліся.

Нядаўна ў Нью-Іорку адбыўся зьезд неграў. Зьезд гэты праз сваіх дэлегатаў прадставіў Саюзу Народаў свае дамаганьні ад імя 150 мільёнаў чорнай расы. Негры дамагаюцца, каб ім перадалі некалькі бышых нямецкіх калёній у Афрыцы, дзе яны і заложуць незалежную дзяржаву. У Афрыцы цяпер ідзе энэргічная прапаганда за вызваленьне дробных народаў Афрыкі. У адозвах і лістоўках стаіць кліч: „Афрыка—афрыканцам!“ Асабліва рашуча і востра выступаюць Сенегальцы.

Яшчэ ў 1920 годзе ў горадзе Акра, на беразе Гвінейскай затокі адбылася канфэрэнцыя на якой дамагаліся аўтаноміі для „чорнага насяленьня“ і англійскі ўрад змушаны быў уступіць і даць абецанкі. Учарашнія чорныя рабы пазналі сабе цану і дамагаюцца належачых ім праў чалавека. Аўторытэт вялікіх эўрапэйскіх дзяржаў а ў апошнія часы і Ліга Народаў ужо траціць значэньне ў неграў і адраджэнскі вызвольчы іх рух прыймае большую арганізованасьць і адналітасьць. Зразумела, што калі не наступіць крутой перамены ў сучаснай палітыцы, што да нацыянальнага пытаньня, ня ўціхне ўціск паднявольных народаў, дык перад намі бурлівая будучына.

Нават негры зразумелі, што толькі самі сваімі рукамі можна збудаваць сваю хату і стварыць свой дабрабыт.

Р. Ю.

## У справе беларускае школы.

**ГРАМАДЗЯНЕ!** Неадкладаючы памажыце зьбіраць матэр'ял для ўнясеньня інтэрпеляцыі (запытаньне) ў Сойме ў справе беларускага школьніцтва.

Трэба падаць нам на пісьме за ўласнаручным подпісам і акуратным адрэсам поўныя і зусім праўдзівыя адказы на гэткія запытаньні:

1. Ад якога району (вёска, воласьць, павет), калі і якому інспэктару падавалі прыгавар аб адчыненьні беларускае пачаткавае школы?
2. Як прозьвішча павятовага школьнага інспэктара, на рукі якога складалі прыгавор, і колькі разоў дэлегацыя ад району была у яго ў беларускай школьнай справе?
3. Колькі больш-меньш было подпісаў пад прыгаворам?
4. Колькі дзяцей (хлапцоў і дзяўчат) школьнага ўзросту ёсьць у районе, ад якога пададзены прыгавор?
5. Якія адказы даваў інспэктар на словах альбо на пісьме? І ці даваў адказы на пісьме?
6. Якія наагул перашкоды былі з боку інспэктара і адміністрацыйнае улады ў справе адчыненьня беларускае пачаткавае школы?
7. Ці не падавалі прыгавару ў сёлетнім школьным годзе?
8. Як стаіць справа з магчымасьцямі адчыненьня прыватнае беларускае школы?
9. Колькі ёсьць ў вашым районе безработных беларускіх вучыцеляў?
10. Колькі ёсьць ў вашым районе польскіх пачатковых школ; колькі працуе там вучыцеляў; колькі дзяцей ходзіць у польскую школу?

Усе адказы на гэтыя запытаньні, адказы поўныя, акуратныя і зусім праўдзівыя зараз-жа перасылаць у Беларускую Цантральную Школьную Раду (Wilno, ul. Wileńska 12—6) альбо проста ў Прасьветную Сэкцыю Беларускага Пасольскага Клюбу (Wazszawa, ul. Wiejska, Sejm Rzeczypospolitej Polskiej.

**Беларускі Пасольскі Клюб.**

18. XII. 1922 г.

## Коопэрацыя у 1922 годзе.

Аглядаючы, што, зроблена ў коопэрацыі ў працягу 1922 году, нельга заўважыць, каб апошні адзначаўся якой небудзь паважнай творчай чыннасьцю.

Наадварот, пры пэсымістычным настраеньні можна бы казаць аб заміраньні, аб заняпадзе коопэрацыі, бо аб тым кажаць на першы пагляд факты.

Запраўды, лічбовы ўзрост сіл коопэрацыі ня толькі не павялічыўся, але значна зьменшыўся. У працягу году блізка што не адчынілася ні воднага коопэратыва, калі ня лічыць пары супулак, зложаных з некалькіх чалавек, якім чамусьці спадабалася прыкрыцца коопэратыўнай вывескай; наадварот, можна аднатаваць некалькі выпадкаў сьмерці коопэратываў: спынілі сваю чыннасьць таварыствы, бо не хапала запалу да працы ў яго кіраўнікоў, бо пры сталым спадку валюты вычэрпываліся капіталы, а часам да вельмі жыцьцёвых, здольных да працы коопэратываў прыкладала руку адміністрацыя, як было гэта з Мядзіольскім коопэратывам „Адраджэньне“.

Ліквідацыйная хваля зачапіла ня толькі беларускія коопэратывы, а ўсе бяз выключэньня; дакладна аблічыць, гдзе аказалася найбалей страт—вельмі трудна, бо ідэёвай сувязі паміж коопэратывамі, аб'еднанымі ў рожных саюзах —няма ніякай.

Таксама, за мінулы год ня чутно было аб якой нібудзь паважнай акцыі, якая бы дапамагла коопэратыўнай працы. Сярод коопэратываў ня было абдумана ніякага шырэйшага пляну, а тым болей праведзена ў жыцьцё. Зусім заглохла і культурна-асьветная праца: ні аб лекцыях, ні аб курсах ня чуваць было ў астатнім часе.

Паданыя факты нібы-та сьведчуць аб паважным заняпадзе нашай коопэрацыі, але гэта толькі на першы пагляд.

Мінулы год трэба лічыць пераломным. Ен прайшоў пад знакам ліквідацыі урадовай помачы ў справах аправізацыі наагул, а спэцыяльна—для коопэратываў, а таксама пад знакам звароту да так званых „нармальных“ гаспадарчых варункаў, г. з., капіталістычнай канкурэнцыі. І хоць у восені саюзы, якія афарбаваліся у нацыяналістычныя польскія калёры, зноў атрымалі урадовую дапамогу ў некалькі дзесяткаў мільёнаў, — беларускія коопэратывы мусілі разьвітацца з урадовай помачай назаўсёды.

Факт гэты, які нібы-та дрэнна адбіўся на матэрыяльным стане коопэратываў, па сутнасьці, нельга лічыць благім

